**ГРОДНА**
№1 (553),
10 студзеня 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Быць сынам, дачкой добрага Бога




*Кожны ахрышчаны мае права з гэтай хвіліны называцца дзіцём Божым, як Езус.*

на старонцы 2

## Папа Францішак прыняў адстаўку арцыбіскупа Кандрусевіча



*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сыходзіць на пенсію.*

на старонцы 4

## Ці існуе залежнасць ад мабільнага тэлефона?




*Як зразумець, што мы залежныя? Якія могуць быць наступствы? Ці ёсць спосабы прадухілення і лячэння залежнасці?*

на старонцы 6

# ГАЛОЎНЫЯ ПАДЗЕІ 2020 ГОДА Ў КАСЦЁЛЕ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ



**2020 год выдаўся цяжкім – радасных падзей было куды менш, чым змрочных. Аднак, падводзячы вынікі, трэба памятаць, што Божае святло можа асвяціць любую цемру.**

на старонках 4–5

## АДЗІНЫЯ Ў ХРЫСЦЕ – АДЗІНЫЯ ВА ЎСІМ

**У студзені звычайна перажываем Тыдзень малітвы аб адзінстве хрысціян. У галоўнай каталіцкай святыні Гродзенскай дыяцэзіі, касцёле св. Францішка Ксаверыя, на экуменічных набажэнствах збіраюцца прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій – як духавенства, так і свецкія вернікі, – каб засведчыць услед за папам Янам XXIII: тое, што нас яднае, значна мацнейшае за тое, што падзяляе.**

**А што наконт экуменізму, які застаецца па-за афіцыйнымі мерапрыемствамі?**



*Сям'я Цвяцінскіх як прыклад экуменізму на практыцы*

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*Канец старога і пачатак новага года прымушаюць падвесці пэўныя вынікі і акрэсліць планы на будучы год. Нярэдка задаёмся пытаннем пра мэтазгоднасць таго, што робім, пра сэнс жыцця і існавання. Шукаючы сваю мэту, мы спрабуем спланаваць шлях, па якім павінны ісці па жыцці.*

*Аднак не заўсёды ўлічваем, што, акрамя нас саміх, ёсць Хтосьці, хто прагне паказаць нам самую лепшую і самую дасканалую дарогу. Дарогу, падрыхтаваную толькі для мяне з канкрэтнай задачай, якую трэба выканаць на гэтай зямлі. Падобны план падрыхтаваны для кожнага і існуе спрадвечна.*

*Стварыцель вельмі далікатна вядзе нас па розных сцежках, не прымушаючы, не ламаючы нашу свабоду. Бог ведае, што схавана ў чалавечым сэрцы. Яго нельга падмануць, ніхто з нас не з'яўляецца для Яго нечаканасцю.*

*Такім чынам, калі хочам ведаць, які Божы план для кожнага з нас, мусім пачаць шчыра маліцца аб распазнанні ды разуменні знакаў і таго, куды яны вядуць, бо за кожнай рэчаіснасцю ў нашым жыцці і за кожным выпадкам стаіць сам Бог.*

*У першыя дні новага года, калі мы ўсё яшчэ робім няўпэўненыя крокі, магчыма, са страхам і трывогай, як малое дзіця, якое ў першыя дні свайго жыцця прытуляецца да маці, давайце прытулімся да Багародзіцы, шукаючы ў Яе абдымках цяпло, надзею, любоў і ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Давайце знойдзем тыя даброты, якія ўвесь час адкрывае для нас Марыя.*

*Папросім Беззаганную, каб падтрымлівала нас ва ўспрыманні і рэалізацыі жыцця як Божага плана, каб дапамагала на шляху, абраным для кожнага Богам, і па-мацярынску намі апекавалася.*



*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**10 студзеня**

***Свята Хросту Пана.***

*Свята Хросту Пана заканчвае перыяд Божага Нараджэння, хаця ў нашай традыцыі яшчэ да 2 лютага спяваюцца калядкі і не разбіраецца шопка. Хростам у водах Іардана Езус Хрыстус распачынае сваю настаўніцкую місію. Тады Яму было каля трыццаці гадоў, бо толькі з гэтага ўзросту яўрэйскі звычай дазваляў выступаць на публіцы і навучаць. Місія Хрыста была пацверджана з нябёсаў. Бог Айцец засведчыў, што Езус Яго Сын і мае права гаварыць ад імя Бога. Сам Бог паслаў свайго Сына з гэтай місіяй.*

**13 студзеня**

***Успамін св. Гілярыя, біскупа і доктара Касцёла.***

*Св. Гілярый нарадзіўся каля 315 года ў Пуацье (Францыя). Як свецкі чалавек ён быў абраны біскупам свайго горада. Заўзята абараняў боства Хрыста Пана перад арыянамі. За гэта быў асуджаны на ссылку. У выгнанні стварыў сваю галоўную працу пра Святую Тройцу. Пісаў таксама каментарыі да Святога Пісання і літургічныя гімны. Пасля вяртання са ссылкі працаваў над адраджэннем каталіцкага жыцця. Святы з'яўляецца абаронцам людзей, укушаных змеямі і хворых на дыслексію.*

**18–25 студзеня**

***Тыдзень малітвы аб адзінстве хрысціян.***

*Тыдзень малітвы аб адзінстве хрысціян, які мае больш за стагадовую традыцыю, стаў цыклічным святам экуменізму. У гэты час хрысціяне розных канфесій сустракаюцца па ўсім свеце на экуменічных набажэнствах, малітвах, канферэнцыях, канцэртах і іншых мерапрыемствах.*

**19 студзеня**

***Успамін св. Юзафа Себасцьяна Пельчара, біскупа.***

*Св. Юзаф Себасцьян Пельчар нарадзіўся 17 студзеня 1842 года ў Корчыне (Польшча). Ён характарызаваўся руплівасцю і асаблівым ушанаваннем Найсвяцейшага Сакраманту, Божага Сэрца і Найсвяцейшай Панны Марыі, што выражаў у сваёй прапаведніцкай і пісьменніцкай дзейнасці. Занепакоены лёсам дзяўчат, маральнасць якіх знаходзіцца пад пагрозай, а таксама лёсам хворых і бедных, у 1894 годзе ён заснаваў у Кракаве Кангрэгацыю Служак Найсвяцейшага Сэрца Езуса.*

**21 студзеня**

***Успамін св. Агнешкі, панны і мучаніцы.***

*Св. Агнешка была адной з многіх мучаніц, забітых у першых стагоддзях хрысціянства. Жыла ў Рыме, верагодна, на мяжы III і IV стагоддзяў, падчас праўлення імператара Дыяклетыяна, хоць некаторыя звесткі падаюць, што на 50 гадоў раней. Паводле традыцыі, памерла ва ўзросце 12-13 гадоў (у 304 ці 305 годзе), абараняючы цнатлівасць, якую паабяцала Езусу Хрысту. Святая з'яўляецца заступніцай дзяцей, нявінніц і садоўнікаў.*

# БЫЦЬ СЫНАМ, ДАЧКОЙ ДОБРАГА БОГА

*працяг са с. 1*

**Святы хрост – гэта сакрамант, які можам параўнаць з дзвярамі, праз якія нас уводзяць у Касцёл. Хутчэй за ўсё, большасць з нас ахрышана ў маленстве і не памятае дня свайго хросту. Таму многія ахрышчаныя ўспрымаюць гэты сакрамант як свайго роду фармальнасць, больш да яго не вяртаюцца і не памятаюць.**

**Свята Хросту Пана, якое заканчвае перыяд Божага Нараджэння, з'яўляецца добрай нагодай, каб у чарговы раз усвядоміць вялікую праўду, што няма большай годнасці, чым тая, якую мы атрымалі на святым хросце.**

***Кс. Юрый Марціновіч***



gorka.jezuici.pl

### ХРОСТ ЕЗУСА ЯК ЗНАК БЛІЗКАСЦІ З ЧАЛАВЕКАМ

Для Езуса хрост стаў пачаткам новага этапу ў жыцці. Рыхтаваўся да гэтага на працягу 40-ка дзён малітвы і посту ў пустыні. Быў там спакушаемы, таму што д'ябал хацеў адвесці Яго з патрэбнага шляху. Аднак Езус перамог спакусніка і адправіўся на Іардан.

Хрыстос – Божы Сын, Найвышэйшы Святар, Яму не трэба было ачышчацца ад граху, знакам чаго з'яўляецца хрост. Аднак Ён папрасіў Яна ахрысціць Яго. У сітуацыі Езуса хрост не быў змыццём віны, выкліканай першародным грахом, бо Ён прыйшоў менавіта для таго, каб узяць на сябе грэх усяго чалавецтва.

Для Езуса хрост з'яўляецца знакам салідарнасці і блізкасці з кожным з нас – людзей, якія маюць патрэбу ў Яго ачышчэнні і адкупленні. Гэта, перш за ўсё, знак, што пацвярджае Яго тоеснасць як Божага Сына. Самае галоўнае пасланне хросту Езуса – "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (Лк 3, 22). Перакананасць і ўсведамленне таго, што Ён умілаваны Сын Айца, далі Хрысту сілу прыняць і выканаць місію адкуплення. Яны суправаджалі Збаўцу на працягу ўсяго зямнога жыцця, і асабліва ў самыя цяжкія хвіліны.

Можам уявіць гэта на прыкладзе нашых сямейных адносін. Хлопец, які атрымаў ад бацькі пацвярджэнне і прызнанне, што ён адважны, смелы, здольны рабіць вялікія справы, спраўляецца з усім у жыцці значна лепш, чым той, хто ніколі не чуў такіх слоў, а можа, быў нават аднойчы адштурхнуты бацькам і пакінуты сам сабе. Магло нават здарыцца, што бацька сказаў яму, быццам той з'яўляецца памылкай, быццам ні да чаго не здатны. Такія словы могуць зламаць жыццё многіх людзей.

У Езуса быў любячы Айцец, які не пакідаў Яго ў адзіноце, які падчас хросту публічна перад Янам Хрысціцелем і ўсімі сабранымі там людзьмі пацвердзіў: "Ты Сын мой умілаваны". Гэтае перакананне спадарожнічала Хрысту на працягу ўсяго жыцця.

### ХРОСТ ДАЕ ПРАВА НАЗЫВАЦЦА ДЗІЦЁМ БОГА

Тое самае адбываецца пры нашым хрышчэнні. Паколькі з'яўляемся людзьмі, хрост ачышчае нас ад плям першароднага граху. Акрамя таго, гэта момант прыняцця нас у Божую сям'ю. Усе ахрышчаныя маюць права з гэтай хвіліны называцца дзецьмі Божымі, як Езус.

Мы не выпадкова на гэтай зямлі. Кожны чалавек з'яўляецца кімсьці важным і нават найважнейшым для Бога, так, як для любячага бацькі кожнае з яго дзяцей самае важнае. Пан даў нам дары і жыццёвыя таленты, і хоча, каб развівалі іх. Больш за тое, наш Нябесны Айцец верыць, што здолеем іх развіць. Ён побач у цяжкія хвіліны, каб суцешыць і ўмацаваць нас, так жа, як прысутнічаў у жыцці Езуса.

Варта паглядзець на хрост не толькі як на тое, што адбылося, калі мы былі дзецьмі, але як на пачатак новага этапу ў жыцці. Падобна таму, як перажыў свой хрост Езус. Ці ўсведамляю я, кім з'яўляюся? Ці ўсведамляю, хто для мяне Бог? Хрост спрыяе таму, як піша св. апостал Павел, што мы становімся паводле надзеі спадкаемцамі вечнага жыцця (параўн. Ціт 3, 7).

Таму жыйма як спадчыннікі, як сыны, як дочкі добрага Айца, і заўсёды будзем мець у сабе жаданне сяброўства з нашым Богам. Хай нішто, літаральна нішто не аддзяляе нас ад Яго!

**Хрост – гэта імкненне перажываць сваё хрысціянства ў сэрцы і ў жыцці так, каб заўсёды было відаць, што мы апрануліся ў Хрыста (параўн. Гал 3, 27) і што мы – дзеці Божыя праз веру (параўн. 1 Ян 3, 2).**

# УСПАМІНАЕМ СВЯТАРОЎ, ЯКІЯ ЛЕТАСЬ АДЫШЛІ ДА ПАНА

**2020 год быў сапраўды цяжкім з кожнага пункту гледжання. Пандэмія каранавіруса цалкам змяніла душпастырскія планы ў нашым Касцёле.**

**На жаль, у гэты час адышло таксама некалькі руплівых святароў, якія працавалі ў Гродзенскай дыяцэзіі. Частка з іх памерла, мяркуючы па-людску, заўчасна… Хочам яшчэ раз узгадаць іх імёны, каб аднавіць у памяці сустрэчы з гэтымі святарамі і тое дабро, якое дзякуючы іх служэнню мы атрымалі, а таксама каб заахвоціць маліць добрага Бога аб вечным жыцці для іх.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

### *Кс. Павел Барысевіч,*
*адміністратар парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Наваельні*



Кс. Павел неспадзявана адышоў у вечнасць **17 лютага.** З маладым святаром развітвалася мноства вернікаў з яго роднай парафіі, а таксама з парафій, дзе ён служыў на працягу амаль 10-ці гадоў святарства: з Гродна, Радуні, Ашмянаў, Дварца, Наваельні. Святар быў пахаваны каля яго роднага касцёла свсв. Пятра і Паўла ў Старых Васілішках (дэканат Шчучын).

### *Кс. прэлат Юзаф Трубовіч,*
*рэзідэнт парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне*



Кс. Юзаф адышоў у вечнае жыццё **26 чэрвеня** на 95-ым годзе жыцця. Быў найстарэйшым каталіцкім святаром у Беларусі, у святарстве правёў амаль 64 гады. Пахаваны каля гродзенскага касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе служыў са снежня 1999 года.

### *Кс. канонік Алег Дуль,*
*пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску і дэкан дэканата Ваўкавыск*



Кс. Алег неспадзявана адышоў у вечнае жыццё **3 красавіка.** Днём раней памёр яго бацька, а праз некалькі месяцаў – і маці. Святар быў пахаваны каля касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску, у якім служыў на працягу апошніх 13-ці гадоў і да будаўніцтва якога прычыніўся.

### *Кс. Генрых Куляшэвіч SDB,*
*былы пробашч парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*



Кс. Генрых адышоў да Пана **6 кастрычніка** ва ўзросце 92 гадоў. Пахаванне спачылага святара, які стаў першым пробашчам адроджанай парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні, дзе ён аддана нёс душпастырскае служэнне на працягу 13-ці гадоў, прайшло ў парафіі Маці Божай Міласэрнасці ў Сувалках (Польшча), дзе святар прабываў апошнія гады.

### *А. Леон Вітэк OMI,*
*былы пробашч парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы*



А. Леон адышоў да Пана **9 чэрвеня** ў Чанстахове (Польшча). У 1995–2014 гадах ён быў пробашчам парафіі ў Зарачанцы (Балі Касцёльнай) каля Гродна. Святар меў 86 гадоў.

### *Кс. канонік Юзаф Ганчыц,*
*пробашч парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*



Кс. Юзаф адышоў па ўзнагароду да Пана **13 кастрычніка** з-за ўскладненняў, выкліканых каранавіруснай інфекцыяй. Быў пахаваны каля лідскага касцёла Святой Сям'і, які быў узведзены дзякуючы яго старанням. У 2020 годзе кс. Юзаф адзначаў юбілей 60-годдзя з дня нараджэння і 25-годдзя святарства.

### *Кс. канонік Тадэвуш Качан,*
*былы пробашч парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Канвелішках*



Кс. Тадэвуш адышоў у вечнасць **19 чэрвеня**, ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, у Доме міласэрнасці ў Каменцы (дэканат Шчучын). Святар быў пахаваны на парафіяльных могілках у Канвелішках (дэканат Радунь), дзе ў 2004–2018 гадах быў пробашчам.

### *Кс. Казімір Гваздовіч,*
*былы пробашч парафіі святых Космы і Дам'яна ў Астраўцы*



Кс. Казімір адышоў у вечнасць **24 снежня** на 66-ым годзе жыцця ў Літве. Святар працяглы час служыў у Беларусі. Нёс служэнне ў парафіях на тэрыторыі сучасных Гродзенскай і Віцебскай дыяцэзій.

**Дзякуючы Пану Богу за дар гэтых святароў, якія вялі нас да Яго, молімся, каб яны атрымалі сваю ўзнагароду. Няхай міласэрны Бог адчыніць ім брамы раю!**

***Андрэй Слонімец,** аніматар Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

*Напэўна, кожны з памерлых святароў быў для кагосьці духоўным настаўнікам, да якога можна было звярнуцца ў любой сітуацыі. Цяпер жа яны патрабуюць нашай малітоўнай падтрымкі.*

*Касцёл штодзённа дбае пра душы памерлых, бо падчас кожнай св. Імшы можам пачуць, як ксёндз кажа "памятай пра душы, церпячыя ў чысцы". Так нам нагадваюць пра важнасць малітвы ў інтэнцыі тых, хто адышоў у жыццё вечнае. Душы ў чысцы адчуваюць сябе куды горш, чым мы тут, бо не маюць ніякай магчымасці папрасіць дапамогі, скіраваць сваю малітву да Бога, папрасіць прабачэння або выправіць благі ўчынак. Іх выратаванне залежыць толькі ад нас. Калі молімся ў інтэнцыі чыстцовых душ, нашы прашэнні ідуць у скарбніцу Божай міласэрнасці, і Усявышні бачыць, каму з памерлых гэтая малітва найбольш неабходна. Таму не павінны спыняцца, нават калі думаем, што чалавек, за якога ахвяруемся, быў "амаль святы пры жыцці".*

*У сваю чаргу мы можам прасіць дапамогі ў чыстцовых душ у надзённых сітуацыях. Гэта асабліва падбадзёрвае, калі прызвычаіліся кіравацца парадамі памерлай асобы. Іх падтрымка – гэта ўдзячнасць за нашы малітвы.*

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### З'явілася яшчэ адно месца для начлегу рымскіх бяздомных у царкве св. Калікста

У Рыме зноў была адкрыта царква св. Калікста, якая прымае на начлег бяздомных. Прытулак арганізавала Суполка св. Эгідзія, якая вось ужо 5 гадоў запар забяспечвае дах над галавой тым, каму няма дзе схавацца ад зімовых халадоў.

Пры арганізацыі прытулку былі ўлічаны правілы для зніжэння рызыкі заражэння Kovid-19, у тым ліку сацыяльнае дыстанцыраванне і прэвентыўныя аналізы на каранавірус.

### Археолагі зрабілі некалькі важных адкрыццяў каля базілікі Гефсіманскага саду

Унікальныя археалагічныя знаходкі, узыходзячыя да эпохі Езуса Хрыста і да эпохі Крыжовых паходаў, былі зроблены ў апошнія месяцы ў Гефсіманскім садзе. Археолагі выявілі цэлы шэраг памяшканняў, прылеглых да старажытнай базілікі Канання Пана, што паходзяць з часоў крыжакоў. У прыватнасці, хрысціянскую капліцу, каля якой, верагодна, размяшчаўся прытулак для пілігрымаў. Знойдзены таксама рытуальны рэзервуар для вады, у якім юдэі здзяйснялі абмыванне перад тым, як выцiскаць алей (на арамейскай мове назва Гэфсіманія азначае "аліўкавы прэс").

### Папа заклікае быць сведкамі сямейнай любові

Ватыканская дыкастэрыя па справах свецкіх, сям'і і жыцця прапануе розныя ініцыятывы ў падтрымку парафій, дыяцэзій, універсітэтаў і асацыяцый у святкаванні Года сям'і "Amoris Laetitia", абвешчанага папам Францішкам, і ў паглыбленні апостальскай адгартацыі пра сямейную любоў.

Дыкастэрыя падкрэслівае, што "вопыт пандэміі звярнуў большую ўвагу на цэнтральнае месца сям'і як хатняга Касцёла і падкрэсліў важнасць сувязі паміж сем'ямі". Таму праз розныя духоўныя, душпастырскія і культурныя ініцыятывы, запланаваныя на Год сям'і "Amoris Laetitia", Папа "намераны звярнуцца да ўсіх касцёльных супольнасцей у свеце, заклікаючы кожнага быць сведкам сямейнай любові".

Ватыкан перадасць у распараджэнне парафій, дыяцэзій, універсітэтаў, касцёльных рухаў і таварыстваў сямей інструменты для развіцця сямейнай духоўнасці, душпастырскай фармацыі і дзейнасці ў сферы падрыхтоўкі да шлюбу, выхавання эмацыянальнасці маладых людзей, святасці сужэнцаў і сем'яў, каб яны жылі ласкай сакраманту ў паўсядзённым жыцці.

### Малітоўныя інтэнцыі на студзень

**паўсюдная**

Молімся, каб Пан даў нам ласку жыць у поўным братэрстве з братамі і сёстрамі з іншых рэлігій, молячыся адзін за аднаго з адкрытасцю на ўсіх.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан благаславіў усіх, хто прыслухоўваецца да голасу Святога Духа падчас трываючага I Дыяцэзіяльнага сінода.

# ГАЛОЎНЫЯ ПАДЗЕІ 2020 ГОДА

працяг са с. 1

*Ангеліна Марцішэўская*



grodnensis.by

## ЗАХАПЛЯЛІСЯ АДРАДЗІЎШЫМІСЯ ІНТЭР'ЕРАМІ СВЯТЫНЬ

***Дзве святыні ў Гродне ўзбагаціліся аднаўленымі алтарамі. У касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў жніўні асвяцілі новапабудаваны галоўны алтар, а ў кастрычніку ў касцёле св. Францішка Ксаверыя – адрэстаўрыраваны 300-гадовы алтар св. Юды Тадэвуша. Асаблівасцямі працы над першым дзеліцца рэктар касцёла кс. канонік Антоній Грэмза.***

Вядома, пышнасць інтэр'ера святынь здаўна мела на мэце адлюстраваць веліч Бога і выклікаць трапятанне вернікаў перад Усявышнім. Устаноўлены алтар у пабрыгіцкім касцёле, які з'яўляецца дакладнай копіяй алтара з XVII стагоддзя, служыць цяпер добрым прыкладам гэтаму сцвярджэнню. Мне асабіста даводзіцца назіраць, што новы алтар выклікае ў вернікаў захапленне, прабуджае прагу яшчэ большага пакланення Пану. Яго прыгажосць прыцягвае позірк і запальвае жаданне трываць на малітве ў Божай прысутнасці.

Падчас працы над падобнымі гістарычнымі шэдэўрамі заўсёды ўзнікае шмат цікавых момантаў. Я б вылучыў працэс вырабу 4-ох пазалочаных калон, якія размяшчаюцца парамі з правага і левага боку ад табернакля і з'яўляюцца ўнікальнымі часткамі алтара. Яны маюць спіральную форму і дасягаюць амаль 4-метровай вышыні. Усе калоны складаюцца з 6-ці спіральных частак, кожная з якіх мае ў сабе 96 кг, і завяршаюцца карынцкімі наканечнікамі. Такім чынам, адна калона важыць 576 кг! Гіпсавыя часткі калон адлівалі ў адмысловай форме, зробленай з дапамогай камп'ютэрнай графічнай праграмы. Пасля, калі яны застылі, падымалі на лябёдках і змацоўвалі разам на металічнай канструкцыі. У выніку майстар выканаў і размясціў кожную калону такім чынам, каб на іх не абапіраўся трохкутны дах алтара. Адметна, што калоны алтара прыпамінаюць калоны працы італьянскага майстра Берніні з базілікі св. Пятра ў Рыме. Атрымліваецца, мы маем у нашым касцёле цуд сучаснага рэнесансу – спалучэнне актуальных тэхналогій з мінулай тэхнікай у выкананні калон.

grodnensis.by

## ДЗЯКАВАЛІ ЗА ДАР КАНСЭКРАВАНЫХ АСОБ

***Гораду над Нёманам у лютым давялося вітаць прадстаўнікоў усіх манаскіх супольнасцей нашай краіны на агульнабеларускім Дні кансэкраванага жыцця. Мужчыны і жанчыны, якія прысвяцілі сваё жыццё Хрысту, мелі магчымасць лепш пазнаць харызмы адзін аднаго. Разам з тым падвялі вынікі служэння пасля вяртання кансэкраваных асоб у вольную ад савецкага атэізму Беларусь. Адны з першых у краіну тады прыбылі айцы кармэліты босыя, якія сёлета асаблівым чынам дзякавалі Богу за тры дзесяцігоддзі з часу аднаўлення служэння манахаў гэтага ордэна ў Беларусі. Падсумоўвае перажыты перыяд а. Казімір Мараўскі OCD, душпастыр з парафіі Наведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гудагаі.***

Галоўным плёнам нашай прысутнасці на беларускай зямлі лічу тое, што яна дала Ордэну 9 новых братоў. Цяпер мы сваёй вялікай супольнасцю можам узяць пад апеку куды большую колькасць вернікаў і навучыць іх будаваць глыбокія, даверлівыя адносіны з Госпадам на падставе малітвы. Мы ўжо многім дапамаглі ўсвядоміць, што яны кожную хвіліну знаходзяцца ў прысутнасці добрага Бога.

Каб дадаць смеласці тым, хто чуе ціхі заклік Пана пайсці за Ім, адзначу: вам дастаткова абаперці сваё жыццё на веру і любоў, умець радавацца і быць адкрытым на бліжняга, і зможаце без цяжкасцей адаптавацца ва ўмовах кляштара.

# ПАПА ФРАНЦІШАК ПРЫНЯЎ АДСТАЎКУ АРЦЫБІСКУПА КАНДРУСЕВІЧА



catholic.by

працяг са с. 1

*Ватыканскае радыё*

3 студзеня 2021 года, у дзень, калі Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму споўнілася 75 гадоў, папа Францішак прыняў яго адстаўку і прызначыў Адміністратара архідыяцэзіі.

У афіцыйнай заяве Святога Пасаду гаворыцца: "Святы Айцец прыняў адмову ад пастырскага кіраўніцтва, прадастаўленую Яго Эксцэленцыяй арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам, Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім, у адпаведнасці з канонам 401 §1 Кодэкса кананічнага права, і адначасова прызначыў Апостальскім Адміністратарам sede vacante на згаданую мітрапаліцкую кафедру біскупа Казіміра Велікасельца О.Р., тытулярнага біскупа Бланды і дапаможнага біскупа Пінскай дыяцэзіі".

Прававы статус Апостальскага Адміністратара падрабязна ўсталёўваецца ў папскай пастанове аб прызначэнні на пасаду. Апостальскі Адміністратар для дыяцэзіі прызначаецца толькі тады, калі маюць месца сур'ёзныя перашкоды для кіравання ёю або адбываецца ўтварэнне новай дыяцэзіі. Калі Апостальскі Адміністратар прызначаецца для занятай дыяцэзіі, то паўнамоцтвы дыяцэзіяльнага біскупа і яго генеральная вікарыя прыпыняюцца.

***Бенедыкт XVI прызначыў арцыбіскупа Кандрусевіча Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім 21 верасня 2007 года, перавёўшы яго з архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве. 3 чэрвеня 2015 года іерарх з'яўляецца Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Ён стаў першым іерархам Касцёла ў Беларусі пасля часоў камуністычнага пераследу: 25 ліпеня 1989 года Ян Павел ІІ прызначыў Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для каталікоў у Беларусі. Біскупскае пасвячэнне, якое прайшло 20 кастрычніка 1989 года ў базіліцы св. Пятра ў Рыме, узначаліў сам Пантыфік.***

***Біскуп Казімір Велікаселец, які ў 1984 годзе скончыў Рыжскую духоўную семінарыю, з 1999 года з'яўляецца дапаможным біскупам Пінскай дыяцэзіі.***

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**МАДАГАСКАР.** Папа Францішак ахвяраваў 50 тысяч еўра, каб дапамагчы галодным рэгіёнам на поўдні Мадагаскара. Яны будуць накіраваны на патрэбы вязняў, у тым ліку жанчын, якія адбываюць турэмнае пакаранне разам са сваімі дзецьмі. Фінансавая дапамога будзе аказана 3-ом пэнітэнцыярным установам. Адмысловая дамова была заключана паміж прадстаўнікамі мясцовых улад, Апостальскім нунцыем у Мадагаскары арцыбіскупам Рока Гуальцьеры і арцыбіскупам Антананарыву Адонам Разанакалонам пасля іх сумеснага візіту ў турмы.

**ПОЛЬШЧА.** У касцёле ў Катавіцах узялі шлюб 2 пары бяздомных. У падрыхтоўцы да сакраманту, якая трывала некалькі месяцаў, нарачоным дапамаглі браты капуцыны з катавіцкага Залэнжа і сёстры калькуткі – Місіянеркі Любові. У вясельнае падарожжа маладажоны адправіліся ў пяцізорачны гатэль. Моніка з Ірэкам і Кася з Марыюшам жывуць у плачэўных умовах. Іх удалося забяспечыць цёплымі спальнымі мяшкамі і рознымі прадуктамі харчавання, а таксама нават замовіць пярсцёнкі. Да падрыхтоўкі і падтрымкі былі запрошаны сябры маладажонаў і ахвярадаўцы.

**АЎСТРЫЯ.** 3-за чарговага лакдаўна да 17 студзеня ўсе набажэнствы ў касцёлах краіны будуць праходзіць без удзелу вернікаў. Аднак святыні будуць адкрыты для індывідуальнай малітвы на працягу дня. Акрамя таго, у святочныя і будзённыя дні ў гэты перыяд можна будзе цэлебраваць літургію ў невялікай групе людзей пры захаванні пэўных умоў.

**РАСІЯ.** Да барацьбы з пандэміяй каранавіруса далучаецца невялікая суполка каталікоў, якіх у расійскім грамадстве ўсяго 0,5%. "Калі з меркаванняў бяспекі немагчыма звярнуцца ў бальніцу, мы спрабуем дапамагчы хворым у іх дамах, – расказвае Паола Пецы, арцыбіскуп Маскоўскі. – Вернікі клічуць нас, бо хочуць прыняць сакраманты, а таксама проста пагаварыць і памаліцца. Акрамя таго, мы аднавілі магчымасць удзелу ў Імшы праз інтэрнэт, арганізуем у сецівe шматлікія малітоўныя і фармацыйныя сустрэчы".

**ЗША.** 82-гадовы пацыент бальніцы ў Ланкастэры, штат Каліфорнія, быў забіты 37-гадовым суседам па бальнічным пакоі па той адзінай прычыне, што пачаў маліцца. Калі стары католік распачаў малітву, забойца схапіў кіслародны балон і ўдарыў яго. Пацярпелы памёр ад атрыманых раненняў наступнай раніцай. Віноўнік злачынства ўжо абвінавачаны ў забойстве на глебе нянавісці да веры.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# Ў КАСЦЁЛЕ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

bratalbert.com.pl

## ПРЫМАЛІ ХРЫСТА АНЛАЙН

***Пандэмія каранавіруса скаланула ўвесь зямны шар і ўнесла свае карэктывы ў паўсядзённае жыццё людзей. Змены прыйшлі і ў функцыянаванне Каталіцкага Касцёла. Большасць звыклых мерапрыемстваў былі скасаваны: летам мы засталіся без пілігрымак, зімой – без аплаткавых сустрэч. Аднак галоўным новаўвядзеннем стала дыстанцыйная св. Імша і духоўная св. Камунія. Пра часовае скасаванне абавязку прысутнасці на нядзельнай службе і наступствы для душ вернікаў разважае кс. Павел Эйсмант, куратар першага курсу Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Мінску.***

Лічу, што ў наяўнай сітуацыі анлайн удзел у Эўхарыстыі – гэта добрае выйсце. Вернікі могуць пачуць Божае слова і адказаць на малітоўныя заклікі святара, знаходзячыся дома, перад экранам камп’ютэра або тэлевізара, ці перад радыёпрыёмнікам. Несумненным плюсам трансляцый з’яўляецца тое, што ў св. Імшы могуць прыняць удзел хворыя, сталыя людзі і інваліды, якія не маюць магчымасці наведваць касцёл самастойна. Гэта з’яўляецца перавагай і для людзей, якія працуюць у нядзелю, аднак могуць уключыць прамую трансляцыю. У пэўнай ступені св. Імша анлайн выконвае евангелізацыйную функцыю, бо далучыцца да яе можа кожны, нават няверуючы. Хоць эфектыўнасць такога метаду распаўсюджання Божага слова застаецца спрэчным пытаннем.

Нягледзячы на пазітыўныя моманты, існуе некалькі адмоўных фактараў. Па-першае, трансляцыя не можа замяніць жывога ўдзелу ў сакрамантах Касцёла, сустрэчы з Езусам у святыні і прыняцця Яго ў св. Камуніі. Па-другое, на жаль, прамая трансляцыя можа ўспрымацца некаторымі вернікамі як фільм або спектакль, які можна толькі “праглядзець” або “праслухаць” без актыўнага ўласнага ўдзелу. Таму нярэдка падчас трансляцыі яны дазваляюць сабе спажываць ежу ці піць каву, што з’яўляецца недапушчальным. Па-трэцяе, дыспенса, якая дзейнічае для тых, хто рэальна знаходзіцца пад пагрозай здароўю і жыццю, часта становіцца нагодай для апраўдання адсутнасці на нядзельнай св. Імшы для тых людзей, якія лянуюцца прыйсці ў касцёл.

Таму нічога дзіўнага, што колькасць вернікаў у святынях рэзка паменшылася – як мінімум, на палову. Прыводжу гэтую статыстыку з уласнага вопыту, бо падчас пандэміі я наведваў парафіі ва ўсіх 4-ох дыяцэзіях Беларусі. Добрым адлюстраваннем сітуацыі можа быць наступнае параўнанне: у краму тыя ж вернікі ходзяць рэгулярна, на працу таксама, штодзённа водзяць дзяцей у садок і школу. А ў касцёл? Няўжо ён з’яўляецца галоўным месцам распаўсюджання заразы?..

У выніку бачым, што анлайн-трансляцыя св. Імшы – гэта толькі сродак, які можа як наблізіць чалавека да Бога, так і спыніць развіццё яго духоўнага жыцця.



grodnensis.by

## СТРАЦІЛІ І ВЯРНУЛІ АРЦЫБІСКУПА

***З 31 жніўня па 24 снежня Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч знаходзіўся за мяжой па прычыне забароны вяртання на Радзіму.***

Яшчэ 23 жніўня вернікі Гродна віталі арцыбіскупа ў пабрыгіцкім касцёле на ўрачыстасці адкрыцця аднаўленага алтара, а ўжо праз тыдзень не маглі акрыяць ад шоку пасля навіны аб выгнанні Мітрапаліта. У той жа дзень мясцовыя католікі сабраліся пад галоўнай святыняй горада над Нёманам, каб прасіць Усявышняга аб вяртанні галавы Каталіцкага Касцёла Беларусі да народу. Людзі, якія апынуліся ў складаных ўмовах грамадска-палітычнага крызісу, адчувалі асаблівую патрэбу ў духоўнай падтрымцы Мітрапаліта, які неаднаразова заклікаў да прымірэння пасля пратэстаў.

Ва ўсіх святынях дыяцэзіі пачалі ўзносіцца прашэнні аб вырашэнні “справы арцыбіскупа”. Вернікі маліліся ў гэтай інтэнцыі падчас св. Імшаў і адарацый, падчас адмысловых службаў за Беларусь і тэматычных сустрэч – напрыклад, падчас Агульнабеларускага дня малітвы кансэкраваных асоб аб хутчэйшым вяртанні арцыбіскупа Кандрусевіча. Адметным стала тое, што да малітвы ў гэтай інтэнцыі далучыліся і прадстаўнікі іншых канфесій – духоўныя і свецкія асобы з Праваслаўнай і Пратэстанцкай Цэркваў.

Малітвы былі выслуханы і адбыўся цуд. Па-сямейнаму ўтульнае свята Божага Нараджэння арцыбіскуп сустракаў разам са сваёй сям’ёй – вялікай супольнасцю вернікаў Касцёла на Бацькаўшчыне.

# АДЗІНЫЯ Ў ХРЫСЦЕ – АДЗІНЫЯ ВА ЎСІМ

*працяг са с. 1*



**Сям’я Цвяцінскіх – Грыгорый, Эльжбета і іх дочкі Ніколь, Сафія і Аліна – існуе ўжо 10 гадоў. Яны разам вядуць быт, разам адпачываюць, разам ходзяць у касцёл і разам ушаноўваюць праваслаўныя традыцыі. І гэта цудоўна, бо не пра красамоўства, якое можам пачуць падчас набажэнства адзінства хрысціян і якое, на жаль, неаднойчы аказваецца пустым. Гэта пра экуменізм на практыцы.**

***Ангеліна Марцішэўская***

Сярод усіх аповедаў пра Бога, якія Грыгорый чуў ад сваёй бабулі, праваслаўнай верніцы, ён узгадвае менавіта гісторыю пра старца ў нізка нацягнутым капюшоне, што падчас аблогі Сталінграда з’яўляўся з ніадкуль і раздаваў дзецям яблыкі. Стары – ніхто іншы як Мікалай Цудатворац, больш вядомы нам як св. Мікалай. Цікава, што ён адзін з нямногіх вынесеных да хвалы алтара, які ўшаноўваецца як у Праваслаўнай Царкве, так і ў Каталіцкім Касцёле.

“Пра Хрыста расказвала толькі бабуля. Дзякуючы ёй мяне і ахрысцілі, але не немаўлём, а ва ўзросце 6-ці гадоў. Бацькі ж нарадзіліся ў часы савецкага атэізму, таму склалася так, што заўзятым вернікам я не быў”, – адзначае спадар Грыгорый.

Практыкаваць веру ў Адзінага Збаўцу мужчына пачаў, калі пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай.

“Аднойчы яна запрасіла мяне на сустрэчу каталіцкай моладзі. Мне спадабалася, цікава было паслухаць святара. І зачасціў. Улічваючы, што сустрэчы заўсёды папярэднічала св. Імша, я прыходзіў і на яе. Спачатку складана было ўсё зразумець, бо ў касцёлах выкарыстоўваецца шмат польскай мовы, але з цягам часу ўдалося асэнсаваць пачутае”, – распавядае мужчына.

Адметна, што, стаўшы часткай супольнасці Каталіцкага Касцёла, спадар Грыгорый не толькі не страціў веру сваіх продкаў, але і адкрыў яе нанова. “Дагэтуль малітва «Ойча Наш», якую вучыў разам з бабуляй, была прыемным успамінам з дзяцінства. Цяпер яна набыла вялікі сэнс. Я ўсвядоміў, якое багацце бабуля намагалася ў мяне ўкласці, і пачаў яшчэ больш шанаваць сямейную гісторыю мінулага пакалення. Калі прыходжу ў касцёл, заўсёды раблю знак крыжа на праваслаўны манер. Як хрысціянін я ўсё ж выйшаў з улоння Праваслаўнай Царквы, і для мяне важна захаваць пэўныя элементы”, – падкрэслівае суразмоўца.

Царкву спадар Грыгорый таксама наведвае, але рэдка. Звычайна ходзіць туды адзін – моцна ўпадабаў праваслаўную традыцыю ставіць свечкі за памерлых і за здароўе перад абразамі. “Здараецца, еду, спяшаюся па сваіх справах і бачу – сабор, а побач пустая паркоўка. Заўсёды знайду час, каб зайсці ў храм і памаліцца”, – дадае ён.

Аднак вялікія хрысціянскія святы сям’я Цвяцінскіх заўсёды адзначае двойчы. У вігілію каталіцкага Божага Нараджэння едуць да бацькоў спадарыні Эльжбеты, а на наступны дзень усе разам ідуць на св. Імшу ў касцёл. Праваслаўнае Раство праходзіць па той жа схеме, толькі сям’я наведвае ўжо бацькоў спадара Грыгорыя. “На Вялікдзень таксама маем падвойную радасць – у нашай сям’і Хрыстос уваскрасае двойчы. Не лянуемся і яйкі два разы пафарбаваць”, – дадае з усмешкай мужчына.

Бацькі сям’і Цвяцінскіх з абодвух бакоў таксама праяўляюць хрысціянскую салідарнасць. “Калі прыпадае праваслаўнае свята, што адзначаюць мае мама і тата – Звеставанне, напрыклад, – бацькі Эльжбеты не выконваюць у гэты дзень ніякай цяжкай працы. Так і атрымліваецца, што прыналежнасць да розных канфесій яшчэ больш яднае сям’ю”, – распавядае спадар Грыгорый.

Рэлігійнае выхаванне ў сям’і Цвяцінскіх таксама экуменічнае. Дзеці цяпер ходзяць у касцёл на катэхезу, падчас якой рыхтуюцца да прыняцця Першай св. Камуніі. “Аднак першыя кнігі пра Бога, якія мы ім паказвалі і чыталі, былі праваслаўнага выдання. Вельмі прыгожа ілюстраваныя. Таксама заўсёды, калі вязу дзяцей у школу, разам молімся. «Ойча наш» адгаворваем па-руску як даніну праваслаўю, а «Вітай, Марыя» – па-польску як даніну каталіцтву. Такое адрозненне робім, каб дзяўчатам было больш зразумела, што ў Хрысце мы адзіныя”, – адзначае суразмоўца.

Мужчына ўпэўнены, што тыя, хто вызнае веру ў Езуса, заўсёды знойдуць супольны падмурак, на якім змогуць будаваць плённыя зносіны. Нават калі належаць да розных канфесій. Інакш – вера несапраўдная. “Галоўнае – абапірацца на любоў аднаго да другога і накіроўваць тое, што маем супольнага, у адно рэчышча. Не трэба дзяліць Хрыста”, – падсумоўвае спадар Грыгорый.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЦІ ІСНУЕ ЗАЛЕЖНАСЦЬ АД МАБІЛЬНАГА ТЭЛЕФОНА?



**Кс. Павел Салабуда,** *псіхолаг*

У апошнія гады адбыліся значныя тэхналагічныя і сацыяльныя змены, і мабільны тэлефон стаў неад'емным атрыбутам сучаснага чалавека. Наяўнасць тэлефоннага апарата і павелічэнне кантакту з ім становіцца даволі распаўсюджанай з'явай у паўсядзённым жыцці. Сёння нас менш здзівіць асоба, якая ўжо з дзесятак разоў змяніла мадэль мабільнага, чым той, хто скажа, што не мае яго ўвогуле. Такіх людзей амаль не засталося. Нас нават зусім не ўражвае факт, што і дзеці 2-3 гадоў умеюць карыстацца смартфонам.

Мабільная тэлефанія паўплывала на змены ў звычках, спосабах зносін, міжасобасных адносінах, уваходзячы ў кожную сферу нашага жыцця. Калі раней тэлефон быў неабходнасцю, выкарыстоўваўся для сямейных размоў ці вырашэння важных спраў, то сёння ён служыць больш для задавалення. Мабільны апарат знаходзіцца ўсюды, дзе і яго ўладальнік, карыстаемся ім 24 гадзіны ў суткі і ніколі не выключаем. Тэлефон становіцца ўсё багацейшым на дадатковыя функцыі, таму сёння ён ужываецца не толькі для камунікацыі, але ў большай ступені арганізуе жыццё ўладальніка і складае яму кампанію, становіцца чымсьці накшталт персанальнага камп'ютэра з магчымасцю карыстання інтэрнэтам. Мабільны выцясняе з паўсядзённага ўжытку стацыянарны тэлефон, але таксама і людзей, жывы кантакт. Напэўна, перад мабільным тэлефонам пасуе толькі тэлебачанне.

Чалавек, у якога ёсць смартфон, лічыць сябе вольным, бяспечным і незалежным. Аднак варта задумацца, што да ўвядзення сотавай сувязі не існавала апантанасці тэлефанаваннем, а карыстанне тэлефонам не было звычкай ці неабходнасцю. Гэта мёртвы прадмет, які ўяўляе асаблівую каштоўнасць для яго ўладальніка. Стаўленне да тэлефона ператвараецца ў нешта падобнае на эмацыянальную сувязь з чалавекам.

**Як зразумець, што мы залежныя?** Вялікае значэнне надаецца таму, каб мець тэлефон. Ні на хвіліну не адкладаем яго, адчуваем дыскамфорт, калі яго няма побач. Акрамя таго, існуюць розныя тыпы залежнасці ад тэлефона: напрыклад, ад новых мадэляў, ад разнастайных гульняў, ад карыстання месенджарамі, інтэрнэтам, паведамленнямі СМС і г. д.

**Якія могуць быць наступствы?** "Выпадзенне" з адносін са светам, адзінота, забыванне таго, як выглядае сапраўдная забава і выражэнне эмоцый падчас вербальнай камунікацыі, страта інтарэсаў, такіх, як, напрыклад, спорт, імгненныя перапады настрою, парушэнні сну і харчавання, канфлікты з блізкімі і г. д.

**Ці ёсць спосабы прадухілення і лячэння?** Трэба памятаць, што мы ў любы час можам узяць кантроль над залежнасцю ад мабільнага тэлефона: паспрабаваць выкарыстоўваць яго радзей, знарок пакінуць дома і пастарацца супрацьстаяць трывозе з-за адсутнасці мабільнага, спецыяльна змяшчаць яго па-за полем зроку, абмяжоўваць час выкарыстання. Калі адчуваем праблему, звязаную з прывычкай карыстацца тэлефонам, і не можам справіцца з ёю самастойна, варта звярнуцца за дапамогай да спецыяліста.

Каб вызваліцца ад залежнасцей, якімі марнуем сабе жыццё, неабходна зразумець, якія эмацыянальныя адносіны маюць сапраўдную каштоўнасць, што ў жыцці на самой справе ў прыярытэце, хто для нас сапраўды важны.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА

# ПАДТРЫМЛІВАЕМ ПРЫРОДУ ЗІМОЙ



**Алена Майсюк**


freepik.com

**Жаданне парухацца і ўдыхнуць марознае паветра – гэта лепшая прафілактыка ачысткі дыхальных шляхоў для чалавека зімой. Каб прагулкі былі яшчэ і карысныя для навакольнага асяроддзя, прапаную ўключыць у штодзённасць наступныя актыўнасці.**

- Выходзячы на шпацыр, вазьміце пару вялікіх старых пакетаў і пальчаткі. Яны спатрэбяцца для сучасных прабежак у стылі плогінг (від спорту са Скандынавіі, пры якім бег сумяшчаецца з раздзельным зборам смецця) ці пры скандынаўскай хадзьбе. Нават калі не любіце бегаць – прагуляйцеся. І працэс збору смецця ў прыгожых кутках падорыць вам чыстыя пейзажы, тонус цягліц, удзячнасць прыроды, а таксама стане праяўленнем вашай дабрадзейнасці.

- І зімой, і летам гараджане імкнуцца "дапамагчы" птушкам. Гэта вялікая памылка, што іх трэба карміць. Свет вялікі, і для кожнага віду жывых істот знойдзецца ежа. А вось домікаў для птушак не хапае з-за празмернага знішчэння расліннасці пакосам, высечкай, меліярацыяй.

**Памятайце, што 5% пластыка ідзе на паўторную перапрацоўку. Астатнія 95% атручваюць нашу планету. Пластык раскладаецца ад 500 да 1000 гадоў або ператвараецца ў небяспечны мікрапластык.**

Многія віды пярнатых выкарыстоўваюць густыя зараснікі для гнёзд і харчавання, іншыя аддаюць перавагу дуплам і старым дрэвам. Зараз самы час даведацца ў арнітолагаў з грамадскай арганізацыі "Ахова Птушак Бацькаўшчыны" (ptushki.org), якое жыллё выбіраюць віды, што жывуць у нашай мясцовасці, і своечасова яго вывесіць.

*Толькі калі зіма суровая, а большасць ежы для птушак накрыў снег, у кармушкі можна пакласці сырыя семачкі сланечніка і арахіс, нарэзаныя яблыкі, несалёнае сала, ягады рабіны, насенне дзікарослых траў. Для вадаплаўных птушак падыходзяць аўсяныя камякі, папярэдне замочаныя ячмень, гарох, авёс, кукуруза, пшаніца ці дробна парэзаныя сырыя морква, бурак і капуста.*

- Зіма – найбольш прыдатны час, каб выехаць за горад і зафіксаваць месцы несанкцыянаваных звалак на фота і відэа, адзначыць іх на карце. Затым неабходна паведаміць пра іх у мясцовыя органы прыродаахоўы праз сайт ohranaprirody.gov.by/odno-okno/elektronnye-obrashheniya. А калі вы заўважылі праблемы прама ў горадзе, смела тэлефануйце на нумар 115, а лепш напішыце электронны зварот на 115.бел. Ваша ўважлівасць да навакольнага асяроддзя дапаможа захаваць спрыяльныя ўмовы для ўсіх. Пісьмовыя звароты значна лепш выконваюцца, таму што можна адзначыць месца, паказаць фота і відэа матэрыял. Гэтыя інструменты створаны для зручнасці зносін адказных органаў і насельніцтва.

- У Гродне па вул. Лапенкоўская, 7 працуе таварыства абароны жывёл "Преданное сердце". Валанцёры даглядаюць бяздомных жывёл у вольны час, выгульваюць іх. Гэта цудоўная магчымасць дапамагчы ў добрай справе. Грамадства чакае жадаючых дзяжурыць у хатках для жывёл: карміць, лячыць, выгульваць, дрэсіраваць, гуляць, гладзіць, камунікаваць, дапамагаць ім жыць у чысціні, акультурваць тэрыторыю.

**Зіма і Калядны перыяд прыносяць чараўніцтва, калі мы ў яго верым і дзейнічаем. Адкрывайце новыя магчымасці, любіце ўсё жывое навокал, рабіце пасільныя справы, спрабуйце новае і ўбачыце, якім цудоўным становіцца акружаючае нас асяроддзе!**

11 студзеня – Дзень запаведнікаў і нацыянальных паркаў. У Беларусі афіцыйна дзейнічаюць 2 запаведнікі: Бярэзінскі біясферны запаведнік і Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік – а таксама 4 нацыянальных паркі: Белавежская пушча, Браслаўскія азёры, Нарачанскі і Прыпяцкі. Да такіх тэрыторый можна смела аднесці ўсю Беларусь, таму што балоты, азёры і рэкі з'яўляюцца каштоўным запасам прэснай вады. Ужо цяпер у свеце існуе недахоп пітной вады. Зберагаць яе могуць здаровыя экасістэмы, у якіх ёсць натуральныя, спрыяльныя ўмовы для раслін і жывых арганізмаў.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці будзе грахом не перахрысціцца публічна каля капліцы ці касцёла з-за баязлівасці?

**abrahamisara.pl**

*Знак крыжа, які робім, праходзячы міма капліцы ці касцёла, – гэта выраз нашай асабістай набожнасці. У такой сітуацыі мы маем розныя спосабы ўшанавання Пана Бога (напрыклад, знак крыжа, схіленне галавы, прамаўленне кароткай малітвы і да т. п.), і кожны вольны выбраць нейкі знешні жэст і/або ўнутраны ўчынак. Калі мы не маем звычкі хрысціцца, праходзячы міма касцёла, то трывога з-за таго, што не зрабілі гэтага, калі хтосьці глядзеў на нас, не апраўданая. Знак крыжа, учынены толькі з той матывацыяй, каб хтонебудзь убачыў наш жэст, быў бы дзеяннем напаказ, а не выразам пашаны да Бога.*

*Калі ж гаворка ідзе пра сітуацыю, у якой звычайна робім знак крыжа каля святыні, але прысутнасць кагосьці побач выклікала страх перад ацэнкай з боку гэтай асобы, што, у сваю чаргу, прымусіла ўстрымацца ад таго, каб перахрысціцца, цяжка ацаніць невыкананне знака крыжа ў катэгорыях граху, паколькі не існуе маральнага абавязацельства хрысціцца перад касцёлам ці капліцай. Аднак у той жа час трывога сумлення не беспадстаўная, паколькі страх перад тым, што падумаюць іншыя, не павінен мець вырашальнага значэння для практыкавання жэстаў прыватнай набожнасці, якія з'яўляюцца выразам асабістых адносін з Богам. Перамагаць боязь ці страхі дазваляе цнота мужнасці. Яна з'яўляецца не толькі плёнам чалавечых намаганняў, але і дарам Бога. Таму варта прасіць гэтага дару!*

# ВЕРА, ЯКАЯ ПЕРАНОСІЦЬ ГОРЫ

*"Майце веру ў Бога! Сапраўды кажу вам: калі хто скажа гары гэтай: «Падыміся і кінься ў мора» – і не засумняваецца ў сэрцы сваім, але паверыць, што збудзецца сказанае, так яму і будзе. Таму кажу вам: усё, чаго просіце ў малітве, верце, што атрымаеце, і будзе вам".*

*(Мк 11, 22–24)*

Людвіга Цыдзік

**ЦІ МАЕШ ВЕРУ СОТНІКА?**

З Евангелля мы бачым, што вера з'яўляецца абсалютна неабходным і незаменным фактарам, які гарантуе, што малітва будзе выслухана. У гісторыі цудаў Езуса шматразова назіраем, што кожны прыклад плённага Божага ўздзеяння быў учынены праз непахісную веру таго, хто прасіў. Так быў аздароўлены паміраючы слуга паганскага сотніка. На просьбу сотніка Езус толькі прамовіў здалёк слова наказу, аб'яўляючы, што Бог не абмежаваны месцам. І рэчаіснасць падпарадкавалася Яму – слуга імгненна аздаравіўся (параўн. Лк 7, 1–10).

Падобным чынам ацалілася і жанчына, якая 12 гадоў хварэла на крывацёк. У гэтым выпадку Езус не зрабіў нічога асаблівага. Менавіта вера жанчыны ў атрыманне аздараўлення праз дотык да Божага Сына прымусіла сілу выйсці з Езуса. Тады сказаў ёй: "Дачка, вера твая ўратавала цябе. Ідзі ў спакоі і будзь вольная ад сваёй хваробы" (Мк 5, 34). Падобна быў ачышчаны і вылечаны пракажоны самаранін, якога Езус запэўніў: "Устань, ідзі; вера твая ўратавала цябе" (Лк 17, 19). Хрыстос заўсёды вельмі цаніў чалавека, які паказваў прыклад моцнай веры, і падкрэсліваў яе важнасць.

Чаму ж у штодзённым жыцці мы так рэдка адчуваем падобнае цудоўнае ўздзеянне, нягледзячы на тое, што просім, упрошваем, а часам нястомна молімся? Ці патрэбна больш малітвы? А можа, праблема ў нашай веры або ў яе адсутнасці? Давайце спытаем сябе, ці ў адносінах з Богам маем правільную паставу абсалютнага даверу, як паганскі сотнік, пракажоны самаранін ці жанчына, вылечаная ад крывацёку? І ці сапраўды добра разумеем, што такое вера?

**БЕЗ ЦЕНЮ СУМНЕННЯЎ**

Мы вельмі часта паводзім сябе, як няверуючы Тамаш. Сумняваемся, падвяргаем Найвышэйшага выпрабаванню і прагнем атрымаць тое, аб чым просім, перш чым паверыць. Думаем у сэрцы: "Калі гэта споўніцца, я паверу, што такая была Божая воля". Аднак у лісце да Габрэяў знаходзім такое тлумачэнне: "Вера – гэта зарука таго, на што мы спадзяёмся, і доказ таго, чаго не бачым. [...] Праз веру мы разумеем, што вякі былі ўладкаваныя словам Божым, так што з нябачнага ўзнікла бачнае" (Гбр 11, 1–3). Адсюль робім выснову, што неабходны наступны парадак: спачатку павінна быць вера, а потым будзе атрымана ласка. Не Бог мусіць даказваць, што Ён можа і хоча штосьці зрабіць для нас, але мы, перш за ўсё, павінны праяўляць цвёрдую паставу даверу, каб убачыць уздзеянне Усявышняга. "Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў" (Ян 20, 29).

У малітве мы просім Бога аб дапамозе і запрашаем Яго ў сваё жыццё. Аднак менавіта вера з'яўляецца ключом, які адчыняе дзверы душы і дазваляе Божаму слову ўвайсці, задзейнічаць, прабачыць, вылячыць, выратаваць і даць ласкі. Калі моцна верыш – твае дзверы шырока адчынены для звышнатуральнага ўздзеяння, і ў выніку нябачная Божая моц дае бачныя вынікі. Калі ж губляеш веру, дзверы зачыняюцца, і нічога не атрымліваеш. Вера – гэта таксама мера таго, наколькі гатовы прыняць тое, аб чым просім. Мы можам атрымаць ласкі, адналькава прапарцыянальныя свайму даверу.


img1.onebid.pl

Аздараўленне слугі сотніка

**ДАЙ ЧАС І ВЫТРЫВАЙ ДА КАНЦА**

Вельмі важна быць цярплівым, стойка чакаць адказу і даць Богу час, каб дзейнічаць. Гэта падобна на земляробства. Калі земляроб сее збожжа, ён разлічвае вырасціць менавіта тое, што пасеяў. Гаспадар ведае, што працэс ужо пачаўся, і чакае выніку, успрымаючы яго як факт, хаця пакуль і не відно плёну. Земляроб прадчувае смак пладоў сваёй працы і стварае належныя ўмовы, каб расліны не пашкодзіліся. Было б неразумна, каб праз тыдзень пасля пасеву ён перадумаў і пачаў выкопваць насенне з зямлі.

Аднак людзі вельмі часта робяць іменна так у духоўных справах. Пасеяўшы насенне просьбы праз малітву, яны пачынаюць сумнявацца, ці ёсць у гэтым сэнс. Не знішчай тое, што пасадзіў! Працэс ужо пачаўся, хоць ты яго і не бачыш. Праз перажыванні, негатыўныя словы сумненняў, няверʼя, крытыкі, нараканняў альбо праклёну, выдзіраеш пасеянае насенне, зачыняеш дзверы перад Богам і перашкаджаеш Яму дзейнічаць. Паспрабуй стварыць належныя ўмовы для таго, каб малітва прынесла плён. Як земляроб, чакай, спадзявайся, прадчувай смак таго, да чаго імкнешся. Будзь упэўнены, што ўжо маеш тое, аб чым просіш. Дазволь веры цалкам функцыянаваць, бо гэта яна з'яўляецца гарантыяй таго, што ўбачыш вынік. Супрацоўнічай з Айцом, наколькі гэта магчыма, і пачні дзякаваць Яму за тое, што ўжо дзейнічае. Гэта прынясе табе плён, а Богу – славу! "А мой справядлівы будзе жыць дзякуючы веры, і, калі адступіцца, не ўпадабае яго мая душа" (Гбр 10, 38).

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***10 студзеня – Свята Хросту Пана***
***Мк 1, 7–11***

Ян Хрысціцель прапаведаваў, кажучы: "Ідзе за мною мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Ягоных сандалях. Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Духам Святым".

І сталася ў тыя дні, прыйшоў Езус з Назарэта, што ў Галілеі, і быў ахрышчаны Янам у Ярдане. І адразу, калі выходзіў з вады, убачыў нябёсы раскрытыя, і Духа, як голуба, сыходзячага на Яго. І пачуўся голас з нябёсаў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я".

## Належым да супольнасці Касцёла

*Евангелле прыводзіць нас да ракі Ярдан, дзе Езус быў ахрышчаны. Гэта стала пераломным момантам у жыцці Настаўніка, які пацвердзіў, што Ён з'яўляецца ўмілаваным Божым Сынам і напоўнены Святым Духам. З гэтага моманту Хрыстос ужо не просты цясляр з Назарэта – Ён стаў абвяшчальнікам Божага Валадарства.*

*Хрост – пераломны момант і ў нашым жыцці. Праз яго мы ўваходзім у новую супольнасць – супольнасць веры, супольнасць Касцёла. Вада хросту змывае першародны грэх іаднаўляе ласку, якой з'яўляецца жыццё Бога ў чалавеку. Сустрэча з Хрыстом фарміруе ўсё наша існаванне.*

*З Езусам мы "пахаваныя ў хросце" (параўн. Кал 2, 12) – як гэта вобразна прадстаўляе св. Павел – і разам з Ім паўстаём да новага і вечнага жыцця. Мы пастаянна адкрываем, разважаем і даследуем важнасць гэтага сакраманту.*

*У Нядзелю Хросту Пана будзем дзякаваць Богу, што вада першага сакраманту распачала наша хрысціянскае жыццё. Будзем дзякаваць за зерне веры, закладзенае ў душу. Падзякуем за дар Божай любові і дар надзеі, якая дазваляе глядзець на Стварыцеля. Няхай моцная і непахісная вера дае нам магчымасць заўсёды ўзірацца ў неба, а пераведзеная на зямное жыццё, дазволіць перажываць кожны досвед у паслухмянасці волі Бога Айца.*

*Пане Езу, дапамажы мне развіваць у сабе Божае жыццё, каб заўсёды быць верным Табе.*

***17 студзеня – II Звычайная нядзеля***
***Ян 1, 35–42***

Стаяў Ян Хрысціцель і двое з вучняў ягоных і, калі ўбачыў Езуса, які ішоў, сказаў: "Вось Ягнё Божае". І пачулі двое вучняў яго, што ён сказаў, і пайшлі за Езусам. А Езус, азірнуўшыся і ўбачыўшы, што яны ідуць за Ім, сказаў: "Чаго шукаеце?". Яны сказалі Яму: "Раббі (што азначае «настаўнік»), дзе жывеш?". Ён сказаў ім: "Ідзіце і ўбачыце". Яны пайшлі і ўбачылі, дзе Ён жыве, і засталіся ў Яго ў гэты дзень. Было ж каля дзесятай гадзіны. Андрэй, брат Сымона Пятра, быў адным з двух, якія пачулі ад Яна пра Езуса і пайшлі за Ім. Знайшоў ён спачатку брата свайго Сымона і кажа яму: "Мы знайшлі Месію" (гэта значыць Хрыста). І прывёў яго да Езуса. Езус, глянуўшы на яго, сказаў: "Ты Сымон, сын Яна; ты будзеш названы Кефас" (што азначае "Пётр", "скала").

## Выбраныя і пакліканыя

*Пакліканне Андрэя і Яна, першых вучняў і апосталаў, было даволі празаічным. Іх настаўнік Ян Хрысціцель не толькі падрыхтаваў іх да прыйсця Месіі, але таксама паказаў ім Езуса і перадаў іх Яму. Яны засталіся са Збаўцам назаўсёды.*

*Такім жа простым было пакліканне Пятра і іншых апосталаў. Хрыстос адарваў іх ад рыбацкай сеткі, каб пакінуць пры сабе. А наданне новага імя Сымону было ўжо чымсьці асаблівым – красамоўным і сімвалічным, бо ён павінен быў стаць апорай Касцёла.*

*Наша пакліканне да веры ў Хрыста таксама было простым. У маленстве нас прынеслі ў касцёл, і там быў здзейснены акт паклікання і абрання. Бог нас усынавіў, а сімвалам гэтага стала імя, дадзенае падчас св. хросту. Мы атрымалі асаблівы прывілей. Гэтаксама адчувалі сябе апосталы, бо выбраны былі не Ян Хрысціцель, не члены Сінедрыёна і кніжнікі, а простыя рыбакі.*

*Мы ўсе былі пакліканы да Хрыстовай веры, да Касцёла, каб чэрпаць з ласкаў Збаўцы. Па гэтай прычыне павінны ганарыцца і быць удзячнымі таму, што Хрыстос і Касцёл адорваюць нас новым жыццём, вучаць і выхоўваюць.*

*Пане Езу, дапамагай мне штодзённа выконваць маё жыццёвае пакліканне.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

***Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму*** *жадаем, каб здароўе, радасць, супакой, любоў і людская добразычлівасць заўсёды Вам спадарожнічалі, а Найсвяцейшая Маці ахінала сваёй апекай і ахоўвала ад зла.*

*Парафіяне з капліцы ў Масалянах*

***Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму*** *жадаем здароўя, шчасця, стойкасці ў святарскім пакліканні, міру, душэўнага супакою і ўсяго найлепшага. Але перш за ўсё, Святла такога моцнага і яснага, каб Яго Вам ніхто і нішто не магло засланіць.*

*Парафіяне з Малой Бераставіцы*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу*** *жадаем Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, радасці і нязгаснага запалу ў паслузе на ніве Пана. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, а Маці Божая і св. Ян Павел II нястомна апекуюцца.*

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка",*
*Ружанцове кола і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ І НОВАГА ГОДА

***Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю і ўсім Святарам Гродзенскай дыяцэзіі*** *жадаем, каб навароджаны Езус адорваў сваімі ласкамі і штодзённа благаслаўляў, Марыя стала апекавалася, а святло Святога Духа ніколі не гасла ў сэрцы.*

*Парафіяне з Крупава*

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Антонію Дзям'янку*** *жадаем, каб добры Бог адорваў Вас патрэбнымі ласкамі ў нялёгкай службе Касцёлу ў Беларусі.*
*З нагоды дня нараджэння жадаем таксама моцнага здароўя і нястомнай апекі Маці Божай.*

*Парафіяне з Навагрудка*

***Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю*** *жадаем, каб міласэрны Бог узнагародзіў Вас моцным здароўем, стойкасцю, сілай і нязгасным запалам у паслузе, а Марыя апекавалася на працягу ўсяго жыцця і адорвала цяплом свайго сэрца.*

*Ружанцовыя колы*
*і Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крупава*

***Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца адорваў здароўем і радасцю, Яго Маці апекавалася Вамі, а Бэтлеемская зорка асвячала жыццё і прыносіла ў сэрца супакой.*

*Вернікі з вёсак Еўлашы, Доўгая, Багданы парафіі Лядск*

***Паважанаму Ксяндзу Францішку Галдысю*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою і Божага благаслаўлення на кожны дзень. Няхай Святая Сям'я мае Вас у сваёй апецы, а Святы Дух заўсёды спадарожнічае на жыццёвым шляху, удзяляючы патрэбныя ласкі.*

*Былыя парафіяне з Гіравічаў, а таксама кс. Аляксадр і парафіяне з касцёла МБ Фацімскай і Хрыста Валадара ў Жамыслаўлі*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму, а таксама Сястры Элігіі*** *жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, радасці і поспехаў. Няхай Пан Езус будзе Вашым Сябрам, Панна Марыя адорвае цеплынёй сэрца, Святы Дух асвячае шлях, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця.*

*Парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму*** *жадаю шчасця, здароўя, поспехаў, добрых людзей побач, моцнай веры і патрэбных ласкаў ад Пана. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваім плашчом, а Езус благаслаўляе.*

*Уладзіслава Бычкоўская з парафіі Каробчыцы*

***Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку*** *жадаем мноства ласкаў ад Божага Дзіцятка, няспыннай апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя, радасці і душэўнага супакою.*
*З нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем таксама Божага благаслаўлення на далейшыя гады паслугі на ніве Пана.*

*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая з Воўпы*

***Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса на кожны дзень і нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе. Няхай святло Святога Духа, якоеззяе ў Вашым сэрцы, ніколі не згасне.*

*Станіслава Сідаровіч і Люцыя Лабэцкая з Воўпы*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Яновічу*** *жадаем, каб Дзіцятка Езус адорвала Вас добрым здароўем, сэрца ніколі не засмучалася, а далейшае жыццё плыло ў шчасці і спакоі.*

*Парафіяне і Кола Жывога Ружанца*
*МБ Нястомнай Дапамогі з Воўпы*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцеру*** *жадаем здароўя, мудрасці, сіл і цярплівасці. Няхай навароджаны Езус Хрыстус адорвае Вас сваім благаслаўленнем і абараняе ад зла, Маці Божая заўсёды апекуецца, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Артуру Валчкевічу*** *жадаем сапраўднай радасці, душэўнага супакою, поспехаў і моцнага здароўя. Няхай добры Бог адорвае Вас шчодрымі ласкамі, а навароджанае Божае Дзіця заўсёды мае ў апецы.*

*Парафіяне з Лаздунаў-2*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму*** *жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса і апекі Панны Марыі, здароўя, здзяйснення мар, зычлівых людзей побач. Няхай Ваша служэнне Богу будзе шчаслівым і плённым, а ўсемагутны Бог узнагародзіць за тое, што дапамагаеце людзям ісці праз жыццё з верай, надзеяй і любоўю.*

*Вернікі парафіі свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму*** *жадаем моцнага здароўя і нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям. Няхай навароджаны Езус адорыць Вас сваёй моцай і благаслаўленнем, а Марыя будзе прыкладам ласкавасці, дабрыні, стойкасці і цярплівасці.*

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

***Паважаным Ксяндзам Каноніку Юзафу Багдзевічу, Станіславу Краўчанку і дарагім Сёстрам*** *жадаем, каб Бэтлеемская зорка асвячала Ваш шлях, навароджаны Езус адорваў спакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекавалася ў кожную хвіліну, а Святы Дух шчодра ўдзяляў свае дары.*

*Парафіяне касцёла свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу*** *жадаем здароўя, шчасця і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай праца прыносіць шчодры плён, добры Бог благаслаўляе ў святарскім служэнні, а кожны дзень новага года будзе радасным і светлым.*

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

***Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану*** *жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езус, дапамогі Маці Божай у нялёгкай працы і ва ўсіх добрых справах, здароўя, цярплівасці і душэўнага супакою. Няхай кожны дзень новага года прыносіць радасць і надзею на лепшае заўтра.*

*Сем'і Шчоцкіх, Машута, Марцінчык і Каспяровіч*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Станіславу Пацыну, Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Аляксандру Вараб'ёву, Андрэю Радзевічу, Паўлу Беланосу, Яну Раманоўскаму і ўсім Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,*** *жадаем, каб добры Бог адарыў моцным здароўем, цярплівасцю, супакоем і патрэбнымі ласкамі, а Дзіцятка Езус благаславіў кожны дзень святарскай паслугі.*

*Ружанцовыя Колы, Апостальства дапамогі чыстцовым душам,*
*апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Радуні*

***Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю*** *жадаем благаслаўлення Божага Дзіцяці, апекі Найсвяцейшай Маці, моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў паслузе Богу і людзям, а таксама шчодрых дароў Святога Духа.*

*Вернікі з парафіі Жалудок*

***Паважаным Айцам Пробашчу Андрэю Агелю, Яну Асіповічу, Віталію Слуку, Вітольду Пяцельчыцу, Аляксандру Махначу, Клерыку Андрэю, Брату Віктару, арганісткам Людміле і Наталлі*** *жадаем моцнага здароўя. Няхай Дзіцятка Езус асвятляе шчодрымі ласкамі Ваш жыццёвы шлях, а Маці Божая ахінае мацярынскай апекай.*

*Кола Жывога Ружанца св. Максімільяна са Шчучына*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Барташэвічу*** *жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса, здароўя на доўгія гады, дароў святога Духа. Няхай Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца, а Бэтлеемская зорка ўказвае найлепшую дарогу да Пана.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Жырмунаў*

***Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Віталію Цыбульскаму, Юрыю Ёдзіку, Аляксандру Вараб'ёву, Артуру Валчкевічу і Алегу Яновічу*** *жадаем шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Панны Марыі, благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса, моцнага здароўя, радасці і дабрыні. Няхай полымя Божай любові ў Вашых сэрцах ніколі не гасне.*

*Апостальства "Маргарытка", Легіён Марыі, Ружанцовае кола*
*і былыя парафіяне касцёла св. Яна Паўла II у Смаргоні*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Звяжынскаму*** *жадаем, каб Дзіцятка Езус адорваў Вас сваімі ласкамі і благаслаўленнем, а Маці Божая дапамагала ў нялёгкай душпастырскай паслузе.*

*Парафіяне і Ружанцовыя колы*
*з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яцэку Маркелю*** *жадаем здароўя, Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Бэтлеемская зорка заўсёды асвячае Ваш святарскі шлях.*

*Колы Жывога Ружанца з Зэльвы*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Раману Вайцяховічу, Паўлу Безляповічу, а таксама Сёстрам Галіне Занеўскай і Ганне Мацуль*** *жадаем, каб Бэтлеемская зорка асвячала Ваш шлях, навароджаны Хрыстос адорваў супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая апекавалася ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух шчодра ўдзяляў свае дары.*

*Касцёльны камітэт, апостальства "Маргарытка"*
*і парафіяне з Ліды-Фары*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку*** *жадаем радасці ад абвяшчэння Божага слова, благаслаўлення ад Божага Дзіцятка, здароўя, сілы ў пераадольванні цяжкасцей штодзённага жыцця, цярплівасці, непахіснай веры і моцнай надзеі.*

*Вернікі парафіі Гожа*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіславу Сурвілу*** *жадаем шчасця, поспехаў, Божага благаслаўлення на доўгія гады жыцця, добрага здароўя і радасці. Надалей плённа служыце людзям на карысць, а Богу на хвалу.*

*Члены хору разам з арганістам*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку*** *жадаем моцнага здароўя, сіл і радасці. Няхай кожны Ваш дзень ззяе Божай любоўю і міласэрнасцю, а Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца.*

*Парафіяне са Студзенікаў*

***Паважаным Ксяндзам Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці ў службе Богу і людзям, а таксама Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця.*

*Вернікі парафіі Дварэц*

***Паважаным Ксяндзам Алегу Яновічу і Яну Сарэлу*** *жадаем добрага здароўя, шчасця, радасці, надзеі, сіл у душпастырскай паслузе і благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса. Няхай Найсвяцейшая Маці ахоўвае Вас ад злога і заўсёды апекуецца.*

*Марыя Вішнеўская і Марына Скорб з Воўпы*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Астукевічу, Антонію Адамовічу і Манаскім Сёстрам*** *жадаем, каб Дзіцятка Езус ахінаў Божай любоўю і ўзнагароджваў здароўем, а Найсвяцейшая Маці заўсёды была побач.*

*Парафіяне з Індуры*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Эрнэсту Мікалайчыку і Андрэю Зайко*** *жадаем, каб маленькі Езус вёў Вас па зямной сцежцы, заўсёды быў падтрымкай і апорай. Няхай святло Бэтлеемскай зоркі доўгай белай стужкай цягнецца праз усё жыццё, асвячаючы радасныя падзеі і ўсмешкі на Вашых тварах.*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

***Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку*** *жадаем, каб маленькі Езус адорваў Вас сваімі ласкамі і дапамагаў у кожны дзень святарскай паслугі.*
*З нагоды імянін жадаем таксама моцнага здароўя, радасці і душэўнага супакою.*

*Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі і Святой Сям'і*

***Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько*** *жадаем здароўя, поспехаў, шчырых і верных людзей навокал, благаслаўлення Дзіцятка Езуса і нястомнай апекі Панны Марыі. Няхай Ваша паслуга будзе доўгай і плённай, а Усявышні ўзнагародзіць Вас за ўсё.*

*Парафіяне з Мастоў*

***Паважаным Ксяндзам Яну Гавецкаму, Дзянісу Бразінскаму, Артуру Валчкевічу, Алегу Яновічу, Віталію Цыбульскаму, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і*** *жадаем вялікай любові ад Дзіцятка Езуса, моцнага здароўя, нястомнай радасці, дабрыні і цяпла. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, а Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну.*

*Легіён Марыі і апостальства*
*"Маргарытка" з касцёла свсв. Пятра і Паўла ў Іўі*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму*** *жадаем добрага здароўя на доўгія гады, цярплівасці, стойкасці, радасці, зычлівых людзей побач і шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе. Няхай маленькі Езус прытуліць Вас да свайго сэрца і благаславіць.*

*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы і вернікі парафіі св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

***Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру, Віктару Савіцкаму, Юрыю Марціновічу і Віталію Дабраловічу*** *жадаем здароўя, поспехаў, сіл і радасці, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай навароджаны Езус адорыць Вас шчасцем і благаслаўленнем.*

*Вернікі з капліцы Вінцукі*

***Паважанаму Айцу Пробашчу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца адарыў Вас здароўем, радасцю і сілай, а Маці Божая апекавалася і ахоўвала кожны дзень. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваша жыццё і нясе супакой у сэрца і душу.*

*Парафіяне з Нямнова*

***Паважанаму Айцу Пробашчу Казіміру Енджэйчаку*** *жадаем, каб навароджаны Збаўца адарыў Вас здароўем, сілай, радасцю, добразычлівасцю людскіх сэрцаў, супакоем і моцнай верай.*

*Валерый, Вераніка і Яна*

***Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблонскаму*** *жадаем шчодрых ласкаў ад навароджанага Збаўцы.*
*З нагоды імянін жадаем таксама, каб добры Бог напаўняў жыццё супакоем і любоўю, адорваў здароўем і стойкасцю, а Найсвяцейшая Маці каб мела Вас у сваёй апецы.*

*Парафіяне з Забалаці*

***Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу*** *жадаем моцнага здароўя, бязмежных духоўных сіл, доўгіх гадоў жыцця, плённай працы на ніве Пана, благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса а таксама дабрыні, сілы і стойкасці ад Яго Маці Марыі.*

*Сям'я Заяц*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку*** *жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, душэўнага супакою, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе, а таксама благаслаўлення ад Дзіцятка Езуса і няспыннай апекі Маці Божай.*

*Парафіяне з Поразава*

***Паважаным Ксяндзам Антонію Філіпчыку, Віталію Петкевічу, Томашу Мікалайчыку, Дзмітрыю Леўчыку, Сёстрам Мірыям, Наталлі, Ліліяне і Антаніне*** *жадаем моцнага здароўя, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай навароджаны Езус Хрыстус прынясе Вам спакой і радасць.*

*Францысканскі ордэн свецкіх і Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

***Паважаным Айцам, Братам і Сёстрам Францысканскага ордэна свецкіх*** *жадаем здароўя, радасці, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на кожны дзень.*

*Францысканскі ордэн свецкіх з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

***Паважанаму Ксяндзу Уладзіславу Сурвілу*** *жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка, стойкасці на святарскім шляху, а таксама добрых людзей побач.*

*Вернікі з парафіі Войстам*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ МІХАЛУ СТЭЦКЕВІЧУ**

ў сувязі са смерцю брата кс. прэлата Ежы Стэцкевіча выказваем шчырыя спачуванні. Няхай малітоўная падтрымка і словы хрысціянскага суцяшэння дапамогуць перажыць невыносны боль усім, каго гэтая смерць закранула і напоўніла смуткам і жалобай.
Вечны адпачынак дай яму, Пане!

*Вернікі парафій Найсвяцейшай Тройцы*
*ў Бердаўцы і св. Казіміра ў Першамайскім*

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 39; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.